Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар контэ паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 7 (29) ВІЛЬНЯ, 5 ЛІПНЯ 1938 г. ГОД III

## На восі Токіо—Бэрлін.

Беларусь ляжыць разам з іншымі суседнімі краінамі на вялізарнай восі Токіо—Бэрлін, дзеля гэтага ўсе падзеі, якія будуць адбывацца на гэтай восі, маюць для беларускага народу вялікае значэньне. Тварцы гэтай восі назвалі яе скромна *„антыкамуністычным пактам“*, але кожны разумее, што пад гэтым скромным, нэгатыўным назовам крыецца глыбейшы, пазытыўны зьмест і шырэйшыя пляны. Разглядаючы аб'ектыўна, трэба сьцьвердзіць, што *антыкамуністычны пакт мае на мэце ня толькі змаганьне з камунізмам, ня толькі вырашэньне расейскай праблемы, але правядзеньне імпэрыялістычных плянаў абедзьвух дзяржаў*. Дык над гэтымі плянамі нам трэба шырэй затрымацца.

*Мэты Японіі* ідуць вельмі далёка, можа нават далей, чым мэты Германіі. Першай мэтай Японіі ёсьць *гэгэмонія над усей Азіяй.* Да гэтай мэты Японія ідзе ўжо здаўных, бо ад першай вайны з Кітаем (1894 г.), ідзе да яе этапамі, з жалезнай вытрымаласьцяй і консэквэнцыяй. Спачатку прысвоіла сабе эўрапэйскую цывілізацыю, потым пачала пашыраць свае ўплывы на Азію. Спаткаўшыся ў Манджурыі з Расеяй, перамагае яе (1905 г.) і далучае Карэю, у 1932 г. бярэ пад свой пратэктарат багатую Манджурыю, а цяпер імкнецца да апанаваньня ўсяго Кітаю. Наколькі ў сваей дзейнасьці Японія празорлівая, сьведчыць факт, што пасьля кітайскай рэвалюцыі (1912 г.) яна заапекавалася кітайскім імпэратарам Пу-І, каторы тады быў яшчэ дзіцянём, выгадавала яго, і пасьля 20 гадоў пасадзіла яго на манджурскі пасад! Значыць ужо ў 1912 г. Японія мела распрацаваныя пляны адносна Манджурыі! Цяпер Японія рэалізуе свае пляны ў Кітаі. Але мыляўся-б той, хто-б думаў, што апанаваньне Кітаю ёсьць аканчальнай мэтай Японіі: гэта мае быць толькі адзін з этапаў да апанаваньня ўсяе Азіі. Але на шляху да гэтай мэты трэба будзе Японіі спаткацца і расправіцца з двама праціўнікамі: Саветамі і Англіяй. Да расправы з імі ідзе рашучая падгатова. Процій Саветаў Японія выставіла ў Манджурыі паўмільённую армію, зложаную з найлепшых дывізыяў (горшыя ваююць у Кітаі), а процій Англіі будуе вялізарныя панцырныя караблі па 45 тысяч тонн, ведаючы, што з Англіяй расправа наступіць на моры. Апроч гэтага процій Англіі Японія арганізуе музулманскія народы, зьезд прадстаўнікоў каторых адбыўся ў маі сёлета ў Токіо. На зьезд прыбылі дэлегаты ад 44 музулманскіх краёў, у тым ліку ад Іраку, Гэджасу і Эмэну (Арабія), а нават Егіпту, значыць ад краёў падлеглых Англіі. Далейшым этапам Японіі мае быць апанаваньне выспаў, якія ляжаць паміж Японіяй і Аўстраліяй і самой Аўстраліі, якая, здаецца, ёсьць апошняй мэтай Японіі... Але мы гэтак далёка ня будзем сягаць, а лепш вернемся да справы, якая нас бліжэй датычыць, імена, да будучага змаганьня Японіі з Саветамі, змаганьня, якое датычыць і нас, беларусаў.

Паводле нашага пераканаьня гэтае змаганьне наступіць пасьля апанаваньня Японіяй Кітаю, як чародны яе этап на шляху да заўладаньня Азіяй. Да гэтага змаганьня Японія гатовіцца. Яна арганізуе кітайскіх манголаў, праз іх дзеіць на манголаў сібірскіх (бураты, якуты, тунгузаў і іншых), падымае паўстаньні музулманскіх плямёнаў у Савецкім Туркестане. У сваіх плянах Японія зьвярнула ўвагу і на Беларусь. У мінулым годзе, як ведама, прыяжджаў у Вільню японскі дыплямат (вайсковы атташэ з Рыгі) на перагаворы з беларусамі. Тэма гутарак была — супольнае выступленьне процій Саветаў. Да нічога канкрэтнага не дагаварыліся і, наколькі ведаем, цяпер кантакт беларусаў з японскай дыплямацыяй парваўся. З якіх прычын — мы гадаць ня будзем, але з гэнага прыезду відаць, што *Японія лічыць Беларусь, за свайго натуральнага саюзьніка ў змаганьні з Саветамі.* Гэта мае вялікае значэньне. Бо калі Японія мае намер у будучай вайне тварыць украінскія вайсковыя аддзелы (забіты Канавалец працаваў у гэтым кірунку), то ясна, што гэтакія-ж пляны могуць існаваць і адносна беларусаў. Такім парадкам у будучай вайне з Саветамі Японія можа паставіць беларускую справу на парадак дня.

*Мэты Нямеччыны* можна азначыць двама пунктамі: 1) імкненьне на Ўсход і 2) здабыцьцё калёніяў. Агульная мэта Нямеччыны такая: даць болей прастору свайму народу, які душыцца на сваей тэрыторыі. Але ані калёніяў, ані прастору на Ўсходзе ніхто дабравольна ня ўступіць, значыць, іх трэба здабыць сілаю. Але да аружнага выступленьня процій вялікіх каляніяльных дзяржаў (Англіі і Францыі) і процій Саветаў Нямеччына ня чуецца прыгатаванай, дык яна прабуе здабыць калёніі і прастор на Ўсходзе пры помачы дыпляматычных ходаў. Для будучага апанаваньня Расеі Нямеччына гатовіць такжа кадры расейскіх фашыстаў і гадуе эўразійства.

Тут трэба адзначыць, што Нямеччына ня мела дагэтуль выразнай праграмы ў расейскай справе, так як напрыклад Японія. Паміж нямецкімі палітыкамі існуюць два кірункі ў расейскай справе: 1) узяцьце адзінай і недзялімай Расеі пад нямецкі пратэктарат, 2) падзел Расеі на паасобныя нац. дзяржавы. Першага кірунку дзяржаліся старыя ням. вайсковыя кругі, а другога дзяржыцца быцам новая Нямеччына. Гітлер у І выданьні свaей кніжкі *„Mein Kampf“* (1927) пісаў, што нямецкая палітыка павінна імкнуцца да таго, каб не дапусьціць да ўтварэньня на абшары сяньняшніх Саветаў аднаго сільнага дзяржаўнага арганізму, бо гэты арганізм могбы ізноў накінуць Нямеччыне змаганьне на два фронты, так як гэта было ў часе Вялікай вайны, але пажаданым было-б утварэньне паасобных нацыянальных дзяржаў (Украіна, Беларусь, Грузія і г. д.), бо гэта зьнэўтралізавала-б Усход і далоб Нямеччыне вольную руку на Захадзе... (гл. *„Gaz. Polska“* 24.IX.1937 г.). У выданьні з 1935 г. мы гэтых думак не знаходзім.

З гэтага бачым, што становішча Нямеччыны ў беларускай справе дагэтуль канкрэтна ня выясьнілася. Магчыма, што ў будучай вайне з Расеяй Нямеччына, ідучы за ідэолёгіяй нацыянал-сацыялізму, паставіла-б беларускую справу на парадак дня, так як у 1918 г. паставіла ўкраінскую і імкнулася-б да яе вырашэньня, але магчыма і іншае становішча. Гітлер у свaей прамове на кангрэсе ў Нюрнбэргу (13.IX.37) заявіў так: „Расейская праблема сталася сусьветнай праблемай. Яна будзе разьвязана так ці інакш, але разьвязана быць мусіць“. Гэтыя словы пацьвярджаюць нашу тэзу, што нямецкая палітыка ня мае яснай і цьвёрдай праграмы адносна Расеі і дапускае разьвязку расейскай праблемы *„так ці інакш“*. Гэтакае самае становішча мы спасьцерагаем у нямецкай палітыцы і адносна Беларусі. Значыць, у часе новай вялікай вайны на восі Токіо—Бэрлін могуць здарыцца ўсялякія магчымасьці. На наш пагляд, калі-б на гэтай восі (у Саветах), у бліжэйшай ці далейшай будучыне, адбываліся нейкія ваенныя ці рэвалюцыйныя падзеі, беларускую справу павінны паставіць на парадак дня *самі беларусы.* Гэта будзе найпэўнейшы выхад. Тады яе паставяць і іншыя.

## ШТО З ВАЙНОЮ?

У кругох, якія інтарасуюцца палітычным жыцьцём, найчасьцей можна пачуць пытаньні: што з вайною? Будзе яна ці не, а калі будзе, то калі? Пастараемся на гэтыя пытаньні, паводле магчымасьці, даць адказ.

Наўперад мусім адзначыць, што вайна — гэта вялікая і рызыкоўная рэч. Вайну пачаць лёгка, але скончыць трудна. У кожнай вайне крыюцца розныя неспадзеўкі, якіх нават найбыстрэйшы палітык прадбачыць ня можа. Кожная вайна — гэта сьвоеродную гру, якую можна выйграць, але можна і прайграць, затым перад такою ігрою кожны добра прызадумаецца, ці варта пачынаць, бо завялікая рызыка. Гэта асабліва важна тады, калі на карту ставіцца існаваньне дзяржавы, народу або калі магчымасьці выйграньня такія самыя, як і магчымасьці прайграньня...

Сьвет цяпер, як ведама, падзяліўся на два блёкі: блёк дзяржаў „сытых“ (Англія, Францыя і Злуч. Штаты П. Амэрыкі) і блёк дзяржаў „галодных“ (Нямеччына, Японія, Італія). Саветы займаюць асобнае становішча: яны пачынаць або весьці вайну ня хочуць, асьцерагаючыся вайны як з Японіяй так і з Нямеччынай, на ўсе зачэпкі адказваюць: „не справакуеце“! Але гэта ня значыць, што Саветы вайны агулам ня хочуць — яны яе хочуць і да яе імкнуцца, нават хацелі-б яе выклікаць, толькі не паміж сабою і некім, але паміж двама блёкамі. Тактыка Саветаў, зда-

ецца, такая: выклікаць сусьветную вайну і ўмяшацца ў яе тады, калі надыйдзе дагодная часіна...

А што-ж тыя два блёкі?

Пачынаць вайну, паводле звычайных правіл, павінен блёк галодны, але ён яшчэ не гатовы. Прыгатаваньне да вайны ён, відаць, разлажыў на этапы, якія паступова рэалізуе. Італія забрала Абісынію, Нямеччына — Аўстрыю, а Японія бярэ пад сваю ўладу Кітай. Паміма геройскага супраціўленьня кітайцаў і ўсякіх вестак аб магчымай інтэрвэнцыі іншых дзяржаў, нам здаецца, што Японія Кітай забярэ. Цяпер няма сілы, якая-б устрымала Японію ад заўладаньня Кітаем, а калі і ёсьць гэтыя сілы, дык яны ляжаць задалёка, каб умяшацца ў кітайскія падзеі, або зьвязаны іншымі падзеямі і сіламі: Англія Нямеччынай, Францыя Італіяй, а Злуч. Штаты самі ўзяць на сябе цяжар вайны з Японіяй не адважваюцца. Дык Японія можа свабодна рэалізаваць свае пляны ў Кітаі, што яна і робіць. Магчыма, што робіцца гэтакі вялікі шум каля Чэхаславаччыны і гэтак доўга працягваецца вайна ў Гішпаніі з тэй мэтай, каб адцягнуць увагу „сытага“ блёку ад Японіі і кітайскіх падзеяў... Англія і Францыя вельмі заняты эўрапэйскімі справамі і ня могуць прысьвяціць болей увагі Далёкаму Ўсходу. А тымчасам там адбываюцца вялікія падзеі, якія могуць вырашыць будучыню сусьветнай гісторыі! Японія, здабыўшы Кітай, захоча дыктаваць сваю волю ўсім сваім праціўнікам...

Але ці да гэтага захоча дапусьціць блёк дзяржаў „сытых“? Ці не захоча ён перашкодзіць аканчальнай падгатове да вайны „галоднага“ блёку і ці не захоча папярэдзіць і напасьці на яго першым? Вось-жа ў тым і ўся справа, што і блёк „сытых“ да вайны яшчэ не гатовы. Але гатовіцца ўсёю сілаю, асабліва Англія. Яе ўваружэньні проста калясальныя. Фабрыкі, вырабляючы аружжа і амуніцыю, ідуць дзень і ноч — і то ня толькі свае, але і чужыя, асабліва амэрыканскія. У далёкай і бясьпечнай Канадзе Англія залажыла якбы свой арсэнал, які мае ей дастаўляць усякія ваенныя прылады. У гэтай-жа Канадзе Англія наперад закупіла ўсё збожжа з сёлетняга ўраджаю, празначанае на вываз. На ўваружэньні Англія выдае ў гэтым годзе болей 10 мільярдаў зл., па гэтульні-ж мае выдаваць праз далейшыя тры гады. Францыя, хоць у слабейшым тэмпе, але робіць тое самае. Кажуць, што Нямеччына ня выдзержыць такога шалёнага тэмпа ўваружэньняў. Аднак Нямеччына адказала тымсамым і нават разьбірае жалезныя платы і перарабляе іх на ваенныя прылады. Апроч гэтага Англія занялася цяпер акружваньнем Нямеччыны і англійская дыплямацыя пачала вялікую дыпл. акцыю ў Югаславіі, Вугрыі, Румыніі, Грэцыі, Турцыі з мэтай адцягнуць іх ад Нямеччыны, а Польшчы шкодзіць у яе натугах будаваньня саюзу нэўтральных дзяржаў. Быццам мін. Бэк мае з гэтым многа клопату ў прыбалтыцкіх і прычорнаморскіх дзяржавах. Усё гэта паказвае, наколькі ў Эўропе стала гарачай палітычная атмасфэра!

А ўсёж-такі, паміма гэтай гарачкі, знаўцы цьвярдзяць, што вайны пакуль-што ня будзе. Чаму? А таму, што блёк „галодны“ да вайны яшчэ не гатоў, а блёк „сыты“ на вайну не адважыцца. Англія і Францыя ведаюць добра, што Нямеччына і Італія, калі на іх напасьці, будуць змагацца да канца; што гэта праціўнікі грозныя, асабліва Нямеччына, якая выдзержала адна праз чатыры гады сусьветную вайну, а цяпер мае пры сабе Італію і Японію; што нямецкі народ у роспачы будзе бараніцца да апошняй магчымасьці і пры сваей тэхніцы можа нарабіць шмат бяды; што Лёндын і Парыж былі-б зьнішчаны бомбамі з варожых самалётаў, а Японія магла-б зьліквідаваць панаваньне Англіі ў Азіі — словам страты вялікія. А якія карысьці? Ці Англіі ўдалося-б зьнішчыць ўсю нямецкую ці італьянскую нацыю? А калі не ўдалося-б зьнішчыць, то што рабіць? Пільнаваць іх, каб ізноў не паўсталі, так як пасьля Вялікай вайны паўстала нямецкая нацыя? А калі пільнаваць, дык трэба дзяржаць вялікую армію і выдаваць вялікія сумы на ўваружаньне. Значыць, тое самае, што і цяпер! Дык нашто пачынаць вайну, каб вярнуцца да таго палажэньня, якое было перад вайною?

Вось гэтакія разважаньні можна знайсьці цяпер на бачынах эўрапэйскай прэсы.

Дык якія з гэтага вывады? А такія, што ў „нармальных“ цяперашніх варунках вайны не пачне „галодны“ блёк, бо не гатовы; не пачне і „сыты“ блёк, бо няпэўны рэзультатаў; значыць, сяньняшняя гарачка можа трываць яшчэ доўгі час, пакуль ня будзе ўсё гатова, або пакуль гарматы, як гэта кажуць, самі не пачнуць страляць! А гэта можа наступіць тады, калі здарыцца нейкі непрадбачаны выпадак, які прымусіць кагоколечы хапіць за аружжа. Але і тады, калі яшчэ ня будзе ўсё гатова да вайны, пастараюцца гэтакі „выпадак“ зьліквідаваць, ідучы на ўступкі.

Значыць, вайна пачнецца тады, калі „галодны“ блёк будзе гатовы да вайны, а гэта наступіць у той час, калі Японія заўладае Кітаем, зарганізуе яго і — крыху адпачыне. З канцом вайны ў Кітаі, здаецца, скончыцца вайна і ў Гішпаніі, сувязь паміж якімі ёсьць відавочнай. А тады ўжо, як далейшы этап, магчымае выступленьне проціў Саветаў. Але і гэта яшчэ не канешне мае азначаць пачатак сусьветнае вайны. Такая вайна магла-б наступіць тады, калі-б „галодны“ блёк зачапіў „за жывое“ англійскія інтарэсы. А трэба сказаць, што „галодны“ блёк гэтага высьцерагаецца.

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Новыя пляны палянізацыі.** „Słowo“ (15.VI) у перадавым артыкуле займаецца справай тварэньня Цэнтральнай Прамысловай Акругі каля Сандаміра і пытаецца, чаму гэтая Акруга творыцца там, а ня тут, на „ўсходніх землях“? Тут таньнейшы работнік, кажа „Słowo“, „тут урэшце ёсьць край, дзе **ёсьць да вырашэньня вялікая беларуская праблема“.** „У Чэрвенскай зямлі мы спазьніліся — кажа далей „Słowo“ — украінцаў сягоньня спалянізаваць ня ўдасца. Але беларусаў спольшчыць, злацінщчыць яшчэ можна. Калі будзем марнаваць час так, як яго марнуем цяпер, то за 20 гадоў можа быць запозна, палажэньне можа стацца таксама хворым, таксама бяз выхаду, як у Усходняй Малапольшчы. Спалянізаваньне беларусаў вымагае адпаведнай адміністрацыі, адпаведна разумнай палітыкі пэрсональнай, школьнай, языковай, касьцельнай і г.д. Апроч гэтага вымагае **ўрбанізацыі** нашых Крэсаў. Беларускі мужык не спалянізуецца, седзячы ў сваей глухой вёсцы, але можа спольшчыцца, калі пярэйдзе як работнік у горад... Гісторыя вучыць, што земляробскія грамадзянствы вынарадаўленьню наагул не паддаваліся, тады калі гарадзкія масы, а тымбалей прамысловыя асяродкі былі ўсякай асыміляцыі вельмі падатлівыя. Без пашырэньня промыслу на Крэсах, без стварэньня тут шматлікіх гарадзкіх асяродкаў ня ўгрунтуем іх польскасьці“.

Гэтак піша „Słowo“. Прачытаўшы гэтыя радкі, аж жудасна робіцца, што людзі твораць аж гэтакія пляны і аж гэтак хочуць нашай нацыянальнай сьмерці! Але пачуцьцё крыўды тымчасам адложым на бок, а падойдзем да справы болей разумова.

З разважаньняў „Słowa“ можна зрабіць такія вывады: 1) дагэтуляшнія спосабы палянізацыі не далі пажаданага для польскіх дзейнікаў рэзультату і беларуская маса ўстаяла перад напорам палянізацыі; 2) некаторыя дзейнікі шукаюць новых спосабаў палянізацыі, а гэтакім новым спосабам ёсьць **урбанізацыя** г. зн. закладаньне і спрыяньне разьвіцьцю ў нашым краі гарадоў і фабрык, як асяродкаў палянізацыі, (цяпер мы разумеем „каналізацыю“ „Kurjera Powszechnego“!) і 3) гэтыя дзейнікі сьпяшаюць з новымі плянамі, бо за 20 гадоў будзе позна: беларускія масы могуць зрабіцца нацыянальна сьведамымі, так як украінскія...

На ўсё гэта адказваем: 1) за 20 гадоў польскія асымілятарскія дзейнікі ўрбанізацыі нашых зямель не правядуць; 2) беларуская маса і надалей паміма ўсяго ўсякага астанецца земляробскай; 3) ня было выпадку ў гісторыі, каб жывая земляробская маса пакінула сваю мову, свае звычаі і абычаі, словам — сваю нацыянальнасьць і прыняла чужую. Адпадуць у нас адзінкі, але маса астанецца беларускай. Гэта пэўна! Значыць, усе патугі польскіх асыміляцыйных дзейнікаў і ўсе іх пляны павінны астацца без рэзультату.

**„Лінія Мажыно“.** Да якіх выдумак даходзіць польскі нацыяналізм з лагеру „Słowa“ ці эндэцыі, сьведчыць адозва, выданая студэнтамі мэдыцыны Варшаўскага ўнівэрсытэту ў газэтцы „Alma Mater“. У адозве стаіць кліч: „Wojna! Akademicy na front“! Прачытаўшы гэты кліч, адразу насоўваецца пытаньне: якая вайна? На які фронт? Аказваецца, што гэты фронт ідзе ад Вільні аж да Львова праз беларуска-ўкраінскія землі і што на гэтых землях польскія студэнты маюць стварыць улетку сёлета аж 200 рухомых лагераў (obozów), якія маюць пашыраць санітарную і асьвет-

## БЯЗЬДЗЕЙНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ.

**(Актуальныя ўвагі і пажаданьні).**

На бачынах беларускай прэсы часта парушаецца пытаньне: чаму з даволі ўжо значнага ліку кончыўшых сярэднюю і вышэйшую адукацыю беларусаў толькі нязначны працэнт прыймае дзейнае ўчасьце ў грамадзкім жыцьці? Падаецца пры гэтым і сякая гэткая статыстыка — кажуць паіменна, што лік кончыўшых толькі беларускую гімназію пераходзе за некалькі сот асоб, а ізноў-жа больш сотні кончыла ўнівэрсытэт у Вільні. Гэта вялікая сіла, калі-б яна дзейна выяўляла сябе на беларускай грамадзкай ніве. Аднак тая-ж прэса з сумам сьцьвярджае, што беларускай грамадзкай працы аддаюцца літэральна адзінкі, а ўсе іншыя дзесь прападаюць для беларускага руху, павялічваючы ў найлепшым выпадку і бязтаго вялікую беларускую пасыўную масу.

Спасьцярога гэта зусім правільная, а паднятае пытаньне дужа важкае і актуальнае. Але мала было-б тут абмяжавацца да самага сьцьверджаньня факту і пагрозы падаваць у газэтах прозьвішчы гэтых асоб. Трэба было-б пастарацца выясьніць прычыны, каторыя выклікаюць гэткае прыкрае зьявішча, каб прынамся ўсьцярагчыся ад яго на будучыню.

Праўда, могуць тут сказаць, што і ў другіх народаў наглядаюцца падобныя-ж зьявішчы і ў другіх актыўна працуе толькі частка інтэлігэнцыі, а рэшта творыць пасыўную масу. Але гэта ня можа быць ніякім апраўданьнем. Абавязкі кожнага атрымаўшага асьвету беларуса, у сучасную хвіліну, калі ворагі рознае масьці пішуць пляны нават аб фізычным зьнішчэньні нашага народу, павінны быць падвоены, бо гэтага вымагаюць інтарэсы нацыі, якая вядзе бязупыннае змаганьне за свае існаваньне і — пакуль-што з цалком здаваляючымі рэзультатамі.

Цікава было-б бліжэй пазнаёміцца з тымі аргумэнтамі, каторымі тлумачыць сваю бязьдзейнасьць гэтая пасыўная беларуская інтэлігэнцыя. Пэўна што іх можа быць шмат, але вось некалькі, што нам удалося спасьцерагчы. Адзін доктар на правінцыі, даволі дзейны ў студэнцкія часы, на пытаньні сваіх знаёмых беларусаў, адказваў па-польску і пры гэтым чамусьці аглядаўся на ўсе бакі, хоць кругом нікога ня было. Калі яго спыталіся, чаму ён з беларусамі гаворыць папольску, доктар не адказаў нічога, а толькі боязна ўтуліў галаву ў каўнер хутры і ўцёк ад гэтай няпрыемнай сустрэчы. На будучыню ён, зразумела, будзе абмінаць сваіх знаёмых беларусаў на вярсту. Справа ясная. Другі доктар, такжа з правінцыі, і ня менш дзейны, калі быў студэнтам, на падобнае-ж пытаньне адказаў — (праўда пабеларуску): „ну што там беларусы, палякі, расейцы; усе мы славяне і нічога страшнага, калі беларусы спольшчацца або зрусыфікуюцца ці наадварот; змагацца тут няма сэнсу; во, калі-б нам пагражала германізацыя або акітайчаньне, тады я гатоў змагацца“. Канешне, да апошняга далёка і таму доктар пакуль што бязьдзейнічае. У нялепшай сытуацыі знаходзяцца тыя, што стаяць блізка каля якіх небудзь „пасадаў“. Тыя адказваюць: „што-ж і рад-бы, ды абставіны не пазваляюць; самі ведаеце, магу згубіць працу, а ведама, што гэта сяньня значыць“. Кажуць, што адзін з гэткіх, быўшы паэт, калі ўбачыў у вакне кнігарні зборнік сваіх вершаў, быццам сказаў да свайго калегі: „дорага я-б даў, каб гэтых вершаў не напісаў“. Відавочна, яны яму ў чымсь перашкаджалі ці перашкаджаюць. Шкада, што гэта асоба не падумала гэтак, калі пачынала пісаць, тады і беларусам ня трэба было-б думаць, што рабіць з прыкрай спадчынай. Іншым ізноў-жа перашкаджае ў грамадзкай працы пьянства ды карты. Пашырылася думка, што людзі апошняй катэгорыі нічога ня робяць. Гэта ня толькі няправільна, але нават абразьліва для іх. Картыжнікі і пьяніцы цяжка працуюць і ня толькі фізычна, але і разумова. Падумаць толькі—кожны дзень трэба скалаціць кампанію (што на глухой правінцыі асабліва трудна), пільнаваць, каб не разбрылася, здабыць грошы (часта праз лямбард), абдумаць, дзе сабрацца, ноччу ўліваць у нутро розную гадасьць (пьяніца заўсёды лае гарэлку), назаўтра цярпець боль галавы, думаць аб пахмельлі і ізноў пачынаць ад пачатку, а спачуцьця ніскуль ані на пазногаць.

Гэтта мы вылічылі некаторыя „перашкоды“ ў грамадзкай працы для беларускай пасыўнай інтэлігенцыі. Мелі мы тут на ўвазе тую частку, каторая тым ці іншым шляхам здабыла сабе кавалак хлеба і кавалак прызваіты, як аб гэтым можна думаць па выглядзе гэтых паноў, спатыканых часам у Вільні, ды як гавораць спасьцярогі другіх. Ясна, што частку гэтага яны маглі-б аддаць бяз ніякай для сябе шкоды свайму грамадзянству, а ўжо прынамся разлічыцца са сваімі грашовымі даўгамі гэтаму-ж грамадзянству, бо ведама што гэтыя паны, будучы студэнтамі

# На беларускім грунце

## СПРАВА АЙЦОЎ МАРЫЯНАЎ З ДРУІ.

Наўперад мусім адзначыць, што гэтая справа вельмі прыкрая і балючая. Разгледзім яе ад пачатку.

У апошніх днях мая Віл. Ваявода выдаў загад, каб чатырох айцоў Марыянаў — беларусаў пакінулі Друю, якая ляжыць над латышскай граніцай і да 10 чэрвеня выехалі з прыгранічнай паласы. Загад датычыў такіх айцоў: Я. Дашуты, пробашча касьцёла ў Друі; К. Смулькі, гаспадара друйскага кляштару; В. Хамёнка, магістра навіцыяту і Ю. Кашыры, прэфэкта гімназіі ў Друі. Загад не датычыў а. Ул. Лысіка, як паляка. Загад быў споўнены і 10.VI айцы Марыяне—беларусы пакінулі Друю і, ад'ехаўшы на 6 клм. ад граніцы, затрымаліся ў фальварку аднаго прыязнага чалавека Р. Гузэ.

Зараз пасьля апублікаваньня загаду аб высяленьні „Kurjer Wil.“ (10.VI) зьвярнуў увагу, што айцы Марыяне выселяюцца не за што іншае, а за тое, што яны беларусы, бо адзін айцец - паляк астаўся на месцы. Слова **„беларусы“** „Kurjer Wil.“ друкуе тоўстым друкам і прыгэтым крытыкуе палітыку тых дзейнікаў, якія цьвярдзяць, што няма беларусаў і разам з гэтым караюць за беларускасьць! У другім нумары (12.VI) той-жа „Kurjer Wil.“ пытаецца, чым займаліся беларускія айцы Марыяне ў Друі і за што іх выселілі — і дае такі адказ: вялі душпастырскую працу, змагаліся з камунізмам, утрымоўвалі ў Друі польскую гімназію, працавалі для польшчыны, зьбіралі ахвяры на польскіх сялян, пацярпеўшых ад паводкі—словам нічога не рабілі такога, за што іх можна было-б высяляць. Галоўнай іх віною было толькі тое, што прызнавалі сябе беларусамі.

Магчыма, што дзеля гэтага заступніцтва польскай прэсы, а такжа дзеля рэкурсу ў міністэрстве Унутр. Спраў, куды зьвярнуўся генэрал а.а. Марыянаў а. А. Цікота, дазволена было вярнуцца айцом М. у Друю, каб зьліквідаваць свае справы. Тады на 16.VI было назначана ў Друі ў доме „стральцоў“ публічнае сабраньне, на якім мелі быць вынесены рэзалюцыі проціў айцоў. „Kurjer Wil.“ (24.VI) піша так: „народ, хоць гэтае сабраньне склікаецца проціў ксяндзоў, прыходзіць і пытае, якая мэта сабраньня. Не атрымоўвае адказу, толькі загад пакінуць залю, а потым абвяшчаецца, што сабраньне ня можа адбыцца з прычыны... вялікай колькасьці асоб. Але народ у ліку 2 тысяч асоб займае пляц і чакае, пакуль не разыйдуцца арганізатары веча“. Гэтак піша „Kurjer Wil.“. Мы аднак маем зусім пэўныя весткі, што народу было куды болей, чым 2 тысячы, што народ выступаў з вострымі пратэстамі проціў высяленьня айцоў Марыянаў і што арганізатары веча „прымушаны“ былі разыйсьціся... Дасталося і кс. Бародзічу, які прыбыў на веча. Найболей актыўна выступалі беларускія жанчыны. Тады арганізатары веча пачалі зьбіраць прыватна подпісы за высяленьнем і калі айцы Марыяне ня выехалі ў новы азначаны тэрмін, паліцыя вывезла іх пад прымусам з пагранічнай паласы. Гэта сталася 23.VI. Гімназія, якую вялі Марыяне, зачынена.

Адзначаем, што закіды камунізму і іншыя, якія ставіць а. а. Марыянам кракоўскі ІКС (26.VI), трэба назваць проста гадкай напасьцяй на нявінных людзей.

Гэтак прадстаўляецца, „друйская справа“. Як мы ўспомнілі, гэта справа балючая, прыкрая і сумная. Ніводзін беларус, бяз розьніцы рэлігійных перакананьняў, ня можа спакойна аб ёй гаварыць. І каму яна была патрэбна? А сьлед у беларускіх настроях яна аставіла вялікі! Загадана такжа да 10.VII. выехаць з Вільні і а. Я. Гэрмановічу.

## БЕЛАРУСКАЯ КАЛЬВАРЫЯ.

12.VI беларусы - каталікі абходзілі, як і мінулыя гады, дарожкі ў падвіленскай Кальварыі. Народу было каля 700 чалавек. Былі прыехаўшы і прыйшоўшы з усіх бакоў; асабліва выдзялялася сваей колькасьцю і арганізацыяй група з Жодзішак, дзе беларушчына жыве буйным нацыянальным і рэлігійным жыцьцём.

## ПАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ СУДОМ КАНФІСКАТЫ „БЕЛ. ФРОНТУ“.

Віл. Акруж. Суд на паседжаньні 2.VI пастанавіў пацьвярдзіць канфіскату „Б. Фр.“ з дня 5.V. г. г. за зьмяшчэньне ў аддзеле „На беларускім грунце“ артыкулу „З жыцьця вёскі“, падаючага паводле прысуду няпраўдзівыя весткі, могучыя выклікаць публічны неспакой.

## РЭФЭРАТ АБ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЕ Ў ПОЛЬШЧЫ.

Дня 10.VI адбыўся дыскусыйны вечар у г. зв. „Дэмакратычным клюбе“ у Вільні з рэфэратам А. Луцкевіча аб беларускай справе ў Польшчы. Трэба прызнаць, што рэфэрат быў вельмі салідны, трываў 2 гадзіны, у ім рэфэрэнт грунтоўна прадставіў крыўды беларускага грамадзянства, пачынаючы ад першых, канчаючы на апошніх. На вечары былі апроч беларусаў і прадстаўнікі польскага грамадзянства; некаторым з іх рэфэрат вельмі неспадабаўся і яны голасна выражалі сваё нездаваленьне, а паміж В. Студніцкім і прэлегентам дайшло нават да вострай палемікі.

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ.

1. **„Запісы Бел. Навук. Т-ва“.** Пад гэтакім загалоўкам выйшаў сшыток 1 непэрыядычнага выданьня, у якім зьмяшчаюцца працы сяброў (і несяброў) Бел. Нав. Т-ва. Зьмест 1-га сшытка такі: **М. Шкялёнак** — Падзел гісторыі Беларусі на пэрыяды; **Хв. Ільляшэвіч** — канец існаваньня друкарні дому Мамонічаў; **А. Луцкевіч** — Жыцьцё і творчасьць Фр. Багушэвіча ў успамінах ягоных сучасьнікаў; **Дм. Дарашэнка** — Старонка з маіх успамінаў (Сьветлай памяці Фр. Багушэвіча); **Ул. Талочка** — Багушэвіч і Арэшчыха; **Б. Брэжга** — Жалаба Рыскае Рады віцебскаму князю Міхаілу XIII ст.; **Я. Станкевіч** — Мова дыпляматычнага лісту Рыскае Рады 1271—1280 г. г.; успамін (нэкролёг) аб с. п. Івану Цеханоўскім; далей ідуць матэрыялы і зацемкі; у канцы Летапіс Бел. Навук. Т-ва. Трэба прызнаць — на 72 бачынах „Запісаў“ сабрана шмат навуковага матэрыялу. Шкада толькі, што папера лішне тонкая, пры грубейшай паперы вонкавы выгляд быў-бы саліднейшы.

2. **„Пад мачтай“** — гэтта ёсьць чарговы зборнік вершаў маладога і здольнага бел. паэта М. Танка. Да шырэйшага разгляду гэтага зборніка і агулам творчасьці М. Танка мы вернемся на восень.

3. **„Наш Золак“** — аднаднёўка з 26.VI, прысьвечаная цалкам памяці памёршага нядаўна д-ра Т. Грыба.

## ЗАГАД ЗРАЗАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ БРАМАЎ.

Тыдні два назад абегла Вільню весьць, што ў Вільні й на сяле — па вёсках, местачках і павятовых местах—Віленскага ваяводзтва паліцыя загадала зрэзаць брамы з характэрным беларускім стылем, пайменна брамы з стрэшкамі; нават прымушаюць зразаць брамы толькі што пастаўленыя ў новых дварышчах. Людзі, якія прыяжджаюць з сяла ў Вільню, надта абураліся й жаліліся з гэтае прычыны. Як яны казалі, усе стрэшкавыя брамы загадана зрэзаць да 30-га чэрвеня 1938 г. Як нам ведама, у Вільні ўжо па загаду паліцыі зрэзалі стрэшкавыя брамы ля вул. Вількамірскай, Тызэнгаузоўскай (№№ дамоў: 2, 4, 7, 9, 10, 13 і 15), Друэты (№№: 4, 6, 8, 10) і шмат іншых.

У Вільні маса мяшчанства спалячана, але шкада ім беларускіх стрэшкавых брамаў, як сваіх спрад-

---

ную (?) працу пасярод насельніцтва. У той адозве чытаем так: „Вайна з найгоршым, з найболей небясьпечным, бо нутраным, хатнім ворагам трывае на ўсходніх „крэсах“ бадай ад сьвітаньня, ад першых дзён нашай незалежнасьці — вайна за кожны парог хаты, за кожны мэтр зямлі, за польскія душы... Усходнія крэсы гараць, гараць агнём бунту і ненавісьці!.. Ужо за пару тыдняў каля 1000 студэнтаў, зарганізаваных у 200 рухомых лагерах, выедзе на ўсходнія крэсы, каб там правесьці санітарную і асьветную працу паміж мясцовага насельніцтва. Пасьля здабыцьця гэтых першых ліній ворага пойдзем далей, да другой перамогі, трэцяй, чацьвертай... аж зусім адкінем ворага і замацуемся на здабытых тэрэнах... Збудуем лінію Мажыно“.

Гэтак пішуць гарачыя студэнцкія галовы Варш. унівэрсытэту! Як ведама, лінія Мажыно — гэта паласа магутных францускіх украпленьняў уздоўж нямецкай граніцы, якія маюць бараніць Францыю перад Нямеччынай. Але ці такую самую лінію маюць будаваць польскія студэнты? Кожны разумее, што іншую!.. У газэтцы ёсьць і карта, на якой нарысавана гэта „лінія“. Ці будаваньне такіх „ліній“ ёсьць здаровым і карысным зьявішчам — няхай асудзяць тыя, якія ў нашым краі пашыраюць славянскую ідэю!

---

і перш-на-перш ультра-радыкаламі, заўсёды крычалі аб дапамозе ім і бралі дапамогі і пазыкі, дзе толькі маглі.

Ня ўсе, аднак, здабылі сабе гэты хлеб. Большасьць хіба прымушана была вярнуцца дамоў. Але і гэтая частка неяк не здраджае актыўнасьні. Ясна, што прычыны тут могуць быць іншыя, а часам і глыбейшыя. Цікаўна было-б іх дасьледваць і выцягнуць на дзеннае сьвятло, бо паўтараем, гэта надта важнае пытаньне. Часам памагае ў гэтым літэратура, але наша, мясцовая беларуская літэратура адказу тут не дае, бо агулам гэта тэматыка яе пакуль што не інтарасуе.

Як-бы там ня было, але факт вялікай пасыўнасьці, ўспомнены на пачатку, існуе. Некаторыя пэсымісты-беларусы нават кажуць, што маладняк ня ўдаўся і што цяжар грамадзкае працы далей спачывае на плячох старыкоў. Мы лічым гэту думку няправільнай, але прызнаць трэба, што на працягу апошніх 15—20 гадоў з беларускай інтэлігенцыяй тут у нас дзеялася нядобра і таму маем цяпер гэткі стан рэчаў. Прычына яго зусім зразумелая, але чамусьці аб ей не гаворыцца.

Калі мы жадаем ад нашай інтэлігенцыі спаўненьня сваіх абавязкаў і ахвярнасьці, дык ясным ёсьць, што яна можа гэта споўніць толькі тады, калі будзе чуцца **нацыянальна** беларускай. Толькі ступень пачуцьця нацыянальнага, інакш нацыяналізму, будзе дыктаваць для яе патрэбу ахвярнасьці і абавязкавасьці. Як можна патрабаваць працы і, скажам, грошы для беларускае справы ад інтэлігента, у каторага ў галаве сядзяць унівэрсальныя ці „дэмократычныя“ пагляды, што беларус, паляк, расеец — гэта адно і тоесамае і што не бяда, калі яны ўсе апалячацца, або зрусыфікуюцца ці ў які іншы спосаб скомасуюцца? Пашто ён мае даваць якраз на беларускую справу? Як можа споўніць свае нацыянальныя абавязкі чалавек, які з гледзішча нацыянальнага зьяўляецца бязхрыбетным? Ён можа, часам, даць пару злотых на якуюсь беларускую мэту, каб адчапіцца і на гэтым канец. Жыцьцё другіх народаў пацьвярджае нашыя пагляды. Возьмем для прыкладу Польшч: тут усе — ад сацыялістаў (і нават камуністаў) да эндэкаў — перш за ўсё нацыяналісты. У крытычную хвіліну яны споўняць свае абавязкі нацыянальныя ўва ўсей іх паўніне — у гэтым можна быць пэўным. Але каб быць нацыяналістымі, трэба ўзгадавацца ў гэткай атмасфэры. А што было ў нас? Даўжэйшы час інтэрнацыянальныя плыні масава рэзалі нашую інтэлігенцыю. Яны ня толькі не здавальняліся тым, што выбівалі з галавы інтэлігенцыі ўсякае нацыянальнае беларускае пачуцьцё, але стараліся фізычна зьнішчыць гэтую інтэлігенцыю, каб яна часам не прачхнулася ад гэтых плыняў. Колькі тысяч згэтуль сваімі трупамі гноюць там бальшавіцкія канц-лагеры, а колькі тут трапіла ў польскія турмы за чужыя ідэі? А трэба ведаць, што гэта быў найбольш энэргічны элемэнт, бескарысна прапаўшы разам з сваімі павадырамі. Для беларускай справы гэтыя ахвяры нічога не далі, а калі што і пакінулі, дык патолькі, паколькі былі нацыяналістамі.

Але ня толькі інтэрнацыянальны кірунак змагаецца з беларускім нацыяналізмам. Нічога з ім ня маючы супольнага — дэмакратычны — таксама баіцца ўзросту бел. нацыяналізму як агню. Беларусы-дэмакраты нібы прызнаюць патрэбу гэтага нацыяналізму, нацыянальнага ўзгадаваньня моладзі, але змагаюцца з г. зв. „зьвярыным“ нацыяналізмам. Дзе канчаецца адзін, а пачынаецца другі — няведама. А ў практыцы сутнасьць гэтага дэмакратычнага нацыяналізму зводзіцца да сказаў „братняе сужыцьцё ўсіх народаў у нашым краі“, „вольныя з вольнымі і роўныя з роўнымі“. У гэтых межах мае мясьціцца і беларускі нацыяналізм. Было-б можа гэта і добра, каб хтось з другога боку гэтае брацтва і вольнасьць прызнаваў. Але гэтага ніхто не прызнае, а ўсе наступаюць на беларусаў і ўсякімі спосабамі стараюцца іх зьнішчыць. Інтэлігенцыя, узгадаваная ў гэткім неазначаным дэмакратычным нацыяналізме, або прыхіліцца да сваіх наступаючых „братоў“, або будзе ў найлепшым прыпадку дэклямаваць ім прыгожыя словы аб брацтве і роўнасьці, як кухар у басьні Крылова, каторы чытаў натацыі кату, пакуль той ня зьеў мяса. Змагацца гэткая інтэлігенцыя ня можа і ня будзе, бо яна заўсёды палохаецца перайсьці межы і трапіць у сфэру „зьвярынага нацыяналізму“. А дэмакратычныя нацыяналісты гатовы дапусьціць перамогу над беларусамі абы каго, толькі не „зьвярынага беларускага нацыяналізму“.

Ясна, што і гэты кірунак будзе толькі павялічваць рады беларускай бязхрыбетнай інтэлігенцыі, што выплывае з яго сутнасьці.

Зьмяніць сытуацыю на лепшае зможа толькі беларускі нацыяналістычны кірунак, толькі нацыяналістычнае ўзгадаваньне маладой нашай інтэлігенцыі, у якім гэты нацыяналізм будзе на першым месцы і які ня будзе знаць ніякіх падзелаў. Да разгляду гэтага мы пры аказыі вернемся.

**М. Ш.**

вечных, з каторымі зжыліся цэлыя роды, шкада ім хараства брамы, гэтага найвыдатнейшага прыбору дварышча. Уласьніца дому № 10 ля Друэты ня можа супакоіца з абурэньня: „Гэткая была брама, даходзіла да паверху; куды ні хадзілі, каго ні прасілі, каб дазволілі пакінуць, нічога не памагло, муселі зрэзаць, а цяпер глядзець на дварышча ня міла“. Абурыўшыся ўсе, ад дзяцей да старых. Уласьнік дому № 8 ля Тызэнгаузоўскай вул. плакаў, мусячы зразаць сваю браму.

Ёсьць яшчэ беларускія брамы ў форме луку ў версе, з каторых і разьвіліся нашыя брамы стрэшкавыя, бо лук у гэных ёсьць прототыпам пакрыцьця-стрэшкі. З глездзішча архітэктурнага мастацтва брамы луковыя ёсьць вышэйшай ступеняй архітэктуры, чымся брамы з паложаным проста на версе бярвенцам, а брамы стрэшкавыя яшчэ вышэйшай. Абодва тыпы беларускіх брамаў належаць да архітэктурнага стылю, а ня маюць значэньня гаспадарскага. Гаспадары, якія ня маюць прэтэнсіі на стыль свайго дварышча, на яго хараство, ня маюць і брамаў. Выглядае, што беларускія брамы архітэктонічна й ідэолёгічна стаяць у сувязі з брамамі беларускіх княжых замкаў. Апрача архітэктурных мамэнтаў, паміж іншым аб гэтым сьведчыла-б яшчэ тое, што калі хто не паруліўся паставіць брамы раней, дык ён канечне хоча гэта зрабіць перад сваім вясельлем. Чаму асабліва на вясельле мае быць брама? Бо на вясельлі малады — гэта „князь“, маладая — „княгіня“, іхняя сваццьба — „дружына“, дык і брама мае быць як у князя ў замку, каб уяжджалі ў **дварышча** сялібы, я не як у гарод.

Зразаньне беларускіх брамаў — гэта ня толькі вялікая шкода матар'яльная, але яшчэ шмат большая культурная, каторай ніякія „урбанізацыі“ не направяць. Добра было-б, каб стылёвыя брамы, дзе яшчэ захаваліся, былі сфатаграфаваны і прысланы ў Бел. Музэй.

Як мы чулі, Бел. Нав. Т-ва з прычыны загаду зразаньня брамаў, якія маюць вялікае значэньне для захаваньня і пазнаньня даўнейшага беларускага стылю, выслана 24.VI. у Міністр. Асьветы (Аддзел Мастацтва) пратэст з просьбай прыпыніць гэты загад.

### АДКАЗ „ШЛЯХУ МОЛАДЗІ“.

„Шлях Мол.“ (30.VI) паводле свайго звычаю, перакручваючы ўсё дагары нагамі, а потым пішучы „круці ды меру знай“, напаў на нас у даўзёрным артыкуле, у якім стараецца сябе абяліць, а ачарніць „Б. Фронт“. І чаго ў тым артыкуле няма? І справа „Зьвязу“, якога па сьмерці „Шлях М.“ ужо бароніць і хваліць; і справа „Калосься“, у якім была не беларуская і не кітайская, але расейская цытата; і справа беларуска-ўкраінскіх адносін, якую мы з свайго боку грунтоўна выясьнілі; і справа тэлеграмы да Вільгэльма, якую 20 гадоў таму выслала рада БНР і якая мела тады сапраўды вялікае дыпляматычнае значэньне; і справа маўчаньня „Бел. Фр.“ аб Кальварыі; і справа зьменнасьці нашай палітыкі; ёсьць нават прытычка кс. В. Гадлеўскаму, што не хадзіў разам з „Шл. М.“ у Кальварыю — словам цэлая літанія ўсялякіх закідаў і прытычак. Але рэкорд пабіў цяпер „Шлях М.“ тым, што палічыў усіх, хто ня быў сёлета ў Кальварыі, за камуністаў... бо кажа, што ў Кальварыю ходзяць беларусы ўсіх кірункаў, апрача камуністаў!.. Вось да якіх абсурдаў даходзіць „Шлях М.“ у сваей злосьці ці неразважнасьці!

Але вернемся да закідаў „Шляху М.“. Праўду кажучы, гэтыя закіды бадай усе старыя, ужо некалькі разоў у рэдакцыі „Шл. М.“ адаграваныя і намі выясьняныя, дык мы над імі ня будзем затрымоўвацца, а адкажам толькі на новыя.

1) Наш часапіс ёсьць палітычны і агульна - беларускі, празначаны для ўсіх беларусаў бяз розьніцы веравызнаньня, а ўважаем, што такі часапіс агітаваць за працэсію **аднаго** веравызнаньня не павінен, няхай гэта робяць рэлігійна-конфэсыянальныя часапісы або адозвы.

2) Ісьці ці ня ісьці на Кальварыю ёсьць асабістай справай кожнага чалавека, у тым ліку і кс. Гадлеўскага. Толькі цікава, чаму гэта „Ш. М.“ так моцна хацеўбы бачыць на Кальварыі і кс. Гадлеўскага разам з сабою?

3) Што датыча зьменнасьці палітыкі „Б. Фронту“ ці кс. Гадлеўскага, скажам коратка: **палітыка наша асталася нязьменнай, а зьменнай ёсьць якраз палітыка БНА і яго павадыроў.** Каб палітыка БНА асталася нязьменнай, „Б. Фронт“ быўбы разам, а калі яна зьмяніла свой кірунак, супрацоўніцтва сталася немагчымым. Уважаем, што павадыры БНА сяньняшняй сваей палітыкай вядуць беларускі народ на блудныя дарогі. Гэта бачаць усе. Не паможа тут ніякая маска і крутня. З гэтакай палітыкай мы супрацоўнічаць ня можам.

# На міжнародным грунце

Сынтэзу сяньняшняй сусьветнай палітыкі мы зьмяшчаем у артыкуле „Што з вайною“, які раім кожнаму ўважна прачытаць, тут хацелі-б толькі дапоўніць наш агляд некаторымі пунктамі: вайна ў Кітаі і Гішпаніі, справа Чэхаславаччыны, якая ня зыходзіць з бачын прэсы і падзеі ў Саветах. Гэтыя справы былі галоўнымі ў мінулым месяцы.

### ВАЙНА Ў КІТАІ.

Японія ў Кітаі ідзе наперад, забіраючы горад за горадам, правінцыю за правінцыяй. Як ведама, у маі месяцы яна разьбіла кітайскую армію пад Сучоў і злучыла свае два фронты: паўночны (каля Жоўтай ракі) і паўднёвы (каля Сіняй ракі) у адзін фронт. Цяпер яна ідзе да апанаваньня Ганкоў, куды быў пераехаўшы з Нанкіну ўрад Чанг-Кай-Шэка. У бітвах Японія тасуе тактыку браньня праціўніка ў падкову, якую яна выпрабавала ў вайне з Расеяй (1905 г.). Сутнасьць гэтай тактыкі ў тым, што пры помачы яе стараецца акружыць ворага і ўзяць яго як-бы ў падкову, якая потым замыкаецца. Пры помачы гэтай тактыкі японцы двойчы разьбілі расейскую армію (пад Ляоянам і Мукдэнам у Манджурыі), гэтаксама двойчы ў цяперашняй вайне кітайскую армію (пад Шанхаем і Сучоў), а цяпер, відаць, будуць тасаваць гэтую самую тактыку пад Ганкоў. Цяпер японцы ідуць у двух кірунках: на Ганкоў і ў правінцыю Шэнсі, каб перарэзаць новазбудаваную „чырвоную дарогу“ з Сав. Туркестану ў Кітай, кудою дастаўляецца Кітаю сав. помач.

Каб вырвацца з японскай „падковы“ пад Сучоў, кітайцы ўзарвалі грэблі каля Жоўтай ракі, у рэзальтаце воды гэтай аграмаднай ракі затапілі цэлую правінцыю Гонан, дзе згінула каля 100 тысяч кітайцаў і часьць японскай арміі. Праўда, галоўныя сілы кіт. арміі вырваліся з японскіх клешчаў, але страты матарыяльныя вялікія. Кітаю грозіць голад і розныя хваробы (халера). Ня гледзячы на гэтае кітайцы ўзрываюць грэблі каля Сіняй ракі, хочучы затапіць Ганкоў. З гэтага бачым, якое заўзятае змаганьне вядзецца ў Кітаі! Але мала гэтага. Японцы ў чэрвені з страшнай сілай бамбардавалі сталіцу паўднёвага Кітаю — Кантон. Кажуць, што яшчэ ў гісторыі сучасных войнаў ня было такога бамбардаваньня! Аднаго дня яно паўтарылася аж трэйчы. Цэлыя эскадры японскіх самалётаў кідалі тысячы вялізарных бомбаў на няшчасны горад, тысячы дамоў лягло ў руінах, хаваючы пад сабою жыхароў, а рэшта насельніцтва ўцякала з гораду, куды вочы глядзяць! Кажуць, што Японія гэтакім парадкам хоча навесьці тэрор на паўднёвыя кітайскія правінцыі і адарваць іх ад Чанг-Кай-Шэка. Гэта паказала, якое вялікае значэньне будуць мець аэрапляны ў будучай вайне — дзеля гэтага ўсе дзяржавы прыступілі да масавай прадукцыі аэраплянаў...

Іншыя дзяржавы не мяшаюцца ў кіт. справы і ўжо не прапануюць замірэньня. Відаць, праканаліся ў бескарыснасьці гэтага. Англія і Францыя запратэставалі толькі праціў магчымага заняцьця Японіяй вялікай выспы Гайнан, якая ляжыць туж пры франц. калёніях і замнога прыбліжае Японію да англ. Сінгапуру і Аўстраліі! Магчыма, што каторая з гэтых дзяржаў захоча пры падзеле Кітаю гэту выспу далучыць да сваіх калёніяў...

### ГІШПАНСКІЯ СПРАВЫ.

У Гішпаніі, агулам бяручы, перамагаюць паўстанцы. Усіх абсэрватараў гішп. падзеяў дзівіць адно: павольнасьць акцыі паўстанцаў. Ня можна гэтага вытлумачыць нястачай сіл, бо калі Мусоліні мог паслаць 100 тысяч „ахвотнікаў“, то могбы паслаць і другія сто — усё адно яго ніхто не кантралюе, але мусіць у гэтай павольнасьці ляжаць глыбейшыя прычыны. Некаторыя дапускаюць, што працягваньне гішп. падзеяў ляжыць у інтарэсах антыкамуністычнага блёку, каб зьвязаць Англію і Францыю ў Эўропе і адвярнуць іх увагу ад Азіі... Пры такіх варунках вайна ў Гішпаніі можа працягнуцца яшчэ доўгі час.

У чэрвені нейкія таёмныя аэрапляны пачалі кідаць бомбы нават на францускую тэрыторыю. Прыляцяць, кінуць бомбы і паляцяць у кірунку „чырвонай“ Гішпаніі. Відаць, нехта хацеў справакаваць сусьветную вайну. Хто — згадаць лёгка. Але на правакацыю не пайшла ані Англія ані Францыя. Горай было, калі „чырвоныя“ заявілі, што будуць кідаць бомбы на італьянскія гарады, адкуль ідзе помач для паўстанцаў. На гэта Італія заявіла, што ў выпадку налёту „чырвоных“ аэрапляпаў на італьянскія гарады, яна афіцыяльна выступіць праціў „чырвоных“. Пасьля гэтакай заявы атмасфэра над Міжземным морам зрабілася цяжкай, але Англія і Францыя зрабілі націск на Барцэлёну, каб яна гэтага не рабіла. Гэта паказвае, што ані Англія ані Францыя вайны ня хочуць! Тоесамае можна сказаць і аб затапленьні паўстанцамі некулькіх англ. гандлёвых караблёў — Англія над гэтымі выпадкамі перайшла да парадку дня.

### ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНА.

У Чэхасл. паспакайнела, ваенная гарачка апала, змабілізаваныя два гады рэзэрвы ў ліку 200 тысяч пушчаны да хаты, урад прыступіў да апрацоўваньня „нацыянальнага статуту“, паводле якога мелі-б быць загварантаваны правы ўсім чэхасл. меншасьцям, а асабліва судэцкім немцам. Аднак справа ідзе туга. Справа ў тым, што ням. меншасьць жадае многа, а чэхасл. урад хоча даць мала. Немцы жадаюць, каб паняцьце меншасьці замяніць паняцьцем нацыянальнасьці; каб такая гміна ўважалася за нацыянальна мяшаную, у якой ня 20 а 10 прац. меншасьці, каб словы „язык дзяржаўны“ замяніць славамі „язык афіцыяльны“ і г. д. Чэхі кажуць, што прыняцьце гэтых варункаў дало-б падставу да падзелу Чэх. на кантоны і катэгарычна адмаўляюцца ад іх прыняцьця. Дык Нямеччына мае намер застасаваць праціў Чэхасл. гаспадарчыя рэпрэсіі і гэту акцыю ўжо пачала. Ідзе яшчэ аб тое, каб Польшч і Румынія адказаліся ад перавозу чэскіх тавараў да мора. Тады Чэх. была-б акружана цалком, але гэтую ням. акцыю быццам паралізуе Англія, якая пасьля аншлюсу Аўстрыі выступіла здэцыдавана праціў Нямеччыны.

### ПАДЗЕІ Ў САВЕТАХ.

У чэрвені выкрылі каля Менска тайную радыястанцыю, якая грозіла сьмерцю Сталіну. Наладжана яна была ў лесе, у пустой хаце лясьніка, вялі яе сябры менскага ГПУ — трацкісты. Пры здабываньні гэтай радыястанцыі былі забітыя і раненыя. Гэта сьведчыць аб развале і ў радох ГПУ.

Наагул, у Саветах адбываецца далейшае змаганьне паміж прыхільнікамі Сталіна і апазыцыяй. Гэтае змаганьне прыводзіць да поўнага раскладу сав. жыцьця. „Чыстка“ зайшла так далёка, што арыштавана або растраляна 384 сав. генэралаў і зьліквідавана 25 прац. афіцэрскага складу (гл. „Robotnik“ 28. VI.). Гэта навяло на ўсіх такую паніку, што ўцякаюць заграніцу нават высока пастаўленыя асобы, як напр. заступнік самога Блюхэра, Лушкоў, які перайшоў да японцаў, і прынёс ім ўсе сав. пляны! (Лушкоў — гэта адэскі жыд, яго праўдзівае прозьвішча Самойловіч).

І як пры такой дэзарганізацыі ваяваць? Для ўсіх ясна, што пры першай няўдачы ў часе вайны чырвонаармейцы пачалі-б страляць у сваіх афіцэраў, падазраючы іх у здрадзе (як гэта было ў часе Вялікай вайны), а гэта зрабіла-б з сав. арміі стада баранаў, празначаных на зарэз... Дзеля гэтага знаўцы кажуць, што сав. армія, хоць тэхнічна і лічбова стаіць вельмі высока, то псыхічна і маральна зусім нізка і пры першым моцным удары разваліцца. Трэба прызнаць, што ў гэтых славах ёсьць многа праўды. Агулам бяручы, сталінаўскі рэжым перажывае глыбокі нутраны крызыс, які можа скончыцца рознымі неспадзеўкамі. Вонкавыя і нутраныя сілы працуюць у гэтым кірунку. Беларусы павінны аб гэтым ведаць.

# З Польшчы

У чэрвені наступіла сьмерць марш. сойму Цара; выбраны новы маршалак, якім стаў палк. Славэк. Газэта „АВС“, пішучы аб гэтым, называе марш. Слаўка зданьню, што дзеяла за кулісамі, а цяпер выйшла навонкі. Кажуць, што палк. Славэк апазыцыйна настаўлены праціў сяньняшняга рэжыму і О. З. Н-у, што думае змагацца з дэцыдуючымі дзейнікамі, што дзеля гэтага можа быць распушчаны сойм і назначаны новыя выбары, што аджывае група палкоўнікаў і г. д. Нам здаецца, што зьмен у Польшчы ня будзе, бо тое што ёсьць: і новая канстытуцыя, і выбарчая ардынацыя, і сойм — усё гэта творы Слаўка. „Kurjer Pozn.“ піша, што Славэк выбраў цяперашні сойм, а сойм па трох гадох выбраў яго на маршалка.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

**інж. Л. Дубейкаўскі,**
**мгр. В. Гадлеўскі,**
**мгр. М. Шкялёнак,**
**студ. В. Папуцэвіч.**

Адказны рэдактар:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ.

Друкарня М. Багаткевіча і В. Труцько. Вільня, вул. Ад. Міцкевіча 22-а.